УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи 6)
Л 13

Л 13 Алесь КАСКО. «Трохкроп'е».
Вершы, пераклады, запісы.
Выдавецкі дом С.Лаўрова,
Брэст, стар. 113

Зборнік складаецца з паэтычных твораў - арыгінальных вершаў і перакладаў, а таксама з нататнікавых запісаў аўтара пра паэзію і паэтаў. Алесь Каско не асцерагаецца палемічнай завостранасці, іроніі, гранічна шчыры ў лірычных перажываннях.

ББК 84 (4 Беі 6)

ISBN 985-6371-66-X

## СЯБРАМ

Шпаркае лета нас выведзе ў восень,
востра кальне пераменаў мяжа:
жыта пасыплецца як з-пад нажа,
клікне нязжатае ў полі калоссе.

Рукі пажаляцца: чэпіцца боязь.
Тонкі ў завоканні смутак смугі
ўсё прыгадае - і плён, і даўгі,
і ці надзейная памяці повязь.

«Не расквітацца з даўгамі сваімі...»
Мужна стрывайма дакор мудраца -
восень дае шанц дайсці да канца:
жыта дажаць, легчы ў поле радзімы.

*Дзе мой край?..*

*Ул. Караткевіч*

Дзе мой край? За небакраем,
за палоскаю ружовай,
дзе анёла не карае
Бог за тое, што спявае
ён сваёй анёльскай мовай.

Дзе мой край? У свеце зорным,
ілюзорным свеце чыстым,
дзе няма прамоў казённых,
алілуйнікаў падзённых
і пагоннікаў плячыстых.

Там жыву зусім нядаўна,
там жыву пакуль часова -
рана шчэ мне жыць расстайна
з той зямлёй, дзе мне світальна
падарыла маці Слова.

З той зямлёй, дзе за вякамі
Слова роднае збылося, -
і калі яно гукае,
стаць у шэраг з дзецюкамі
апускаюся з нябёсаў.

***

Пабольш бы ў песні светлыні,
паболей звонкасці, спакою…
Ды стане песня не маёю,
не пра мае раскажа дні.

Сярод маны і мітусні
ёй сорамна перад сабою
ўзнікаць з прытворнага настрою,
з азартнай слоўнае гульні.

Матыў вясёлкавы саткаць?
Атручаныя дождж, рака,
плынь мовы роднай ледзь крынічыць…

Даў Бог, не прыхадзень, не госць,
не зносак - не спяю цынічна,
што без святла вясёлка ёсць.

## БЯССОННЕ

Доўга стукала вада,
доўга маятнік штукарыў,
доўга нейкая брыда
грызла ўпоцемку сухарык…

Марна адключыў ваду,
марна запыніў гадзіннік,
марна шуструю брыду
ў кут загнаў пад халадзільнік!

Бы настырная вада,
бы скрабня нахабнай мышы,
бы гадзінніка хада,
невыноснай стала ціша.

Смяглі губы - сніў ваду,
чуў ход часу скрозь дрымоту
і не меней за брыду,
бы сухар, грыз адзіноту.

***

Старое грае, сам стары,
з усхліпам, зболена, мінорна.
Не чуюць. Слухаюць прытворна
музыкі новае пары.

Яму, хто смуткам сее смех,
яны не скажуць, што зайздросцяць...
Як скрыпкі зграбныя, тут госцяць
часцей, чым музы, жрыцы ўцех.

Інакшы храм і час. І плач
тут не ўспрымаецца сур'ёзна.
Не спавядайся ж гэтак слёзна,
памерлай музыкі скрыпач!

Над муміямі слёз не льюць,
дык прэч адсюль, каб недзе босым,
расхрыстаным - зайграць нябёсам:
яны шчэ здатныя пачуць.

***

Туляцца ў суцішаным галлі
не мае вецер болей звычкі,
зрывае лісце, нібы знічкі,
вуголлем коціць па зямлі.

Згарае лістапад датла,
заўчасна ўзветраны, няўрочны,
і вые парк стары па-воўчы
на пробліск цьмянага святла.

І госць начны мой пра зіму
заводзіць скрушна ды пра тое,
што блізка, як падаць рукою,
цяпер да вечнасці яму.

Баюся - ветру завыццё
ў ныццё пяройдзе сябра-брата,
кажу, што лістапад не страта,
ёсць і па восені жыццё.

А больш маўчу, дамоў вяду
плячо ў плячо, як можна шпарка,
каб развітацца з воўчым паркам,
дзе аргументаў не знайду.

Суцешыць - але як і чым,
калі я сам перадзімовы?..
Яго далонь, як ліст кляновы,
маўкліва плача на плячы.

# ДРЭВЫ

Як удзень людзі,
уночы ходзяць па горадзе дрэвы:
цяжка стаяць пад дажджамі
ім, бязлістым, халодным,
ім, шматлікім, а ўсё ж адзінокім.

Збіраюцца ў купкі,
сплятаюць галіны скалелыя,
атуляюць адно аднаго, бы ў абдымках,
а потым блукаюць да золку
і трызняць няблізкім прадвеснем.

Адно не забавяць
дасюль да сваіх вандраванняў
таго ясакара высокага,
што і ў самую сцюжную ноч
ад дому твайго не ступае і кроку.




*Малюнак дачкі паэта*

# ВАРАЖБА

У люстэрку - адхіл апаўночнага змроку
на сумежжы няяркае свечкі і шкла.
Невядома яшчэ, што адкрыецца зроку
ў глыбіні, дзе выток і народзін, і тла.

Неабачліва так сузіраецца вечнасць:
за краплінку надзеі ў вачах маладых
вымагае ўтрапення яна - не аспрэчваць
анічога з таго, што ўлюструецца ў іх.

Знак ці рэч, ці абрысы аблічча паўстануць -
і спалох прабяжыць, як імгненны агонь.
Вусны свечку задзьмуць, зберагаючы тайну
непаўторнасці лёсу, адценняў яго.

Не апрытомнеюць вочы да самага золку, -
дый тады, як апошні рассеецца змрок,
мо сляза хіба ўдасць, што адкрылася зроку
ў глыбіні, дзе і тла, і народзін выток.

## ІСЦІНА

Як духу ўзлёт не мае столі,
так духу ўпад не мае дна.
Хто зведаў ісціну спаўна,
калі ні дна няма, ні столі?..
Што ж ісціна? Мо ў тым яна,
што маем выбар - выбар волі:
ці ўзлёт, які не мае столі,
ці ўпад, які не мае дна!

# АДПЯВАННЕ

*Волечцы на даросласць*

Стаяла дзяўчынка ў храме
між чорнага ў ясным, белым
пад Янам святым у раме,
над дзедам сваім знямелым.

Тры пальцы ў пучок збірала,
вучылася, як трымаць іх, -
жалобнікам патурала:
то бабцы ў слязах, то маці...

Усім - і айцу святому,
і цётцы, што свечкі ўнесла,
і гэтаму - маладому -
з высокай, пад купал, песняй.

Хрысцілася, як умела,
за дзеда, за ўсіх наўкола
маленькаю ручкай белай
і чыстаю, бы ў анёла.

А ў левай трымала снежны
агарачак парафінны -
і кожны тут быў бязгрэшны,
і кожны тут быў бязвінны.

Губамі ў адзіны подых
вышэптваліся імёны,
каб духам анёльскім продак
быў тысячна блаславёны.

І еднасць людзей мацнела
ў тым духу...
Як выйшлі з храма,
спакой, нерухомасць цела
здаваліся меншай драмай.

Яснела ў нябёсах весніх,
і кожны мог заручыцца:
памерламу - уваскрэснуць,
няжыўшаму - нарадзіцца.

* * *

Ёсць парадокс: грахі ў прарокаў.
Іх кон такі.
Аднойчы схіб -
“грэх” высвеціцца мноствам урокаў
халодных, пільных,
нібы ў рыб.
І мноства слыхаў - чуйных, вострых -
перададуць на языкі
нашэпт і гвалт,
праклён і пострах:
маўляў - здрадліўцы, прэч такіх!..
А з выракаў ды злых папрокаў
так шырака
расце мана,
што ўзносіць люд
ілжэпрарокаў,
пакольki… праведных няма.

* * *

Мы вершамі народу замінаем,
ад яснага святла народ аслеп.
Я гэта зразумеў, калі: “Мяняем
свабоду цяжкую на лёгкі хлеб”, -
сказаў вяшчун змяркання...
З гэткім шумам
народ зарадаваўся навіне
і зрокся досвітку,
што я падумаў:
нічога больш не засталося мне;
нічога больш,
як толькі прах ілюзій,
як толькі горыч ды віно дапіць,
як толькі вымавіць:
“Эх, людзі-людзі...”
Як толькі моўчкі дзверы зачыніць.

* * *

Чорным хлебам варону кармлю,
ёй кідаю то крошку, то скрылік
на сухую, бы хлеб мой, зямлю,
на птушыныя чорныя крыллі.

Спадабляе мой корм і прыгляд,
прыручу, як не будзе дурная, -
хай пад вокны мае, у мой сад
аж да самай вясны прылятае.

Чорны сад мой - такая ж яна,
вось і ходзіць па ім, быццам пані,
ёй сябровак гурма не чутна,
што над могілкамі гарлапаніць.

Тут зацішна, ніякай бяды,
добра ўсё ж напаткаўшай апеку:
што з таго, што ўчарнелі сады,
што тужліва над ёй чалавеку?

Усё роўна, якая пара
і ў прыродзе, і ў зболеным сэрцы
і з чыім цераз прорву двара
позірк мой гэтак прагне сустрэцца.

Добра ёй, што без сцюжы зіма,
што жыццё маё - скокам ды бокам,
што са мною галубкі няма
і што мне, як і ёй, адзінока.

* * *

Такая ціша за акном,
што і адной шчымлівай ноты,
заспеўшай раптам перад сном,

даволі да сыходу ночы.
Як быццам на адной струне,
глыбока тоячы маўчанне,
зайграў скрыпач - і важна не

парушыш» цішыні гучанне.
У тым гучанні міг і век,
адзінства заўтрага й былога,
у ім і сам ты, чалавек, -

ах, як адное ноты многа!
І - толькі слухаць, толькі чуць,
не быць ні сумным, ні смяшлівым;
смяшынку кінуць ці ўздыхнуць -
і ўсё, і цішыня сфальшывіць.

* * *

Па сутнасці - як і было:
малочная рака па грудзі,
і коні фыркаюць на грудзе,

і сонца толькі што ўзышло.
Скрозь - промні: на кустах, на мне,
на бацьку, які зняў вятроўку
і змеіць мне касу-літоўку,

што хутка ў травы слізгане.
Па сутнасці - як і было:
брыняць ля чоўна плёс, і, нібы
плаўнік зялёна-чорнай рыбы,

трымціць над люстраддзю вясло.
Нырцую і праз лазнякі
на сенажаць выходжу бродам.
Зноў адчуваю, скуль я родам:

з вялікіх траў, з сівой ракі.
Зноў - як было: раса, святло,
соль працы, сон у прахалодзе...
Ды там, на нейкім юным годзе,
мне гэтак скрушна не было:
я ўсё ўжо знаю аб зыходзе.

* * *

Слядоў дзіцячых мала ў вёсцы,
найбольш - дарослыя сляды:
туды, у поле…
Пры бярозцы
пачаты новыя клады.
Мякчэе ўзгорачак дзірванны
то пад дажджом, то пад слязьмі.
Што ж, буду тут і я названы
між імі, ціхімі людзьмі.
Няма нідзе мацнейшай веры
і памяці чысцейшай, чым
у роднай вёсцы…
Дома дзверы
празрыста свецяцца ўначы.
Мне бачыцца: з-пад небакраю
ідуць яны
з гадоў былых…
Сню кожны раз, як прыязджаю,
нібыта ўваскрашаю іх.

# ТРАВАКОС

З лугу ў сухадолле збег кулік,
вецер знік у хмызняках замглёных.
Перш, чым травы, памірае крык
гэтых траў шумлівых і зялёных.

Перш, чым мы прыходзім да канца,
ціхне смех і высыхаюць слёзы...
...Я не разумеў таго касца,
што аднойчы ўпаў вачмі ў пракосы.

Целам жыў - і шкадаваў душы,
і маліўся над духмянай пожняй:
дай зялёным крыкам даражыць
да апошняй хвілі, да апошняй!..

## БЫЛАЯ РАКА

Так ціха - а неспакой
і вострае адчуванне:
над выплюхнутай ракой
прадонны агонь паўстане.

Збялелы яе пясок
з вадой, амаль нежывою,
люструе зары шматок
парэзінай нажавою.

А сонца свой хмарны схоў
пакіне - тады струменілі
з ракі запульсуе кроў,
нібы з перацятай вены.

# КАЛЯ ШТУЧНАГА ВОЗЕРА

Стаю каля штучнага возера ў парку
і ў прызме настылай слязіны
бачу - не бачу цябе:
вось
 не ўваходзіш ты ў браму старую,
вось
не спыняешся каля таксафона,
вось
не чакаеш каля кавярні “У озера”.
Няма цябе і ў люстрадзі роўнай вады,
якую ледзь-ледзь парушае
крапінка-другая з ніцай вярбы.
А я ўсё ўзіраюся
і разумець пачынаю,
што з кожнаю хвіляй раблюся Нарцысам,
улюбёным у адбітак уласнага жалю,
у штучную слязіну
каля штучнага возера ў парку.

* * *

Ты мне жыццё ў душу ўдыхнула,
як бура - у аціхлы стаў,
распешчаны пяском і мулам,

прыспаны шапаценнем траў.
Там ледзь пагойдваліся скалкі
ад тлустых рыб на глыбіні,
там для пакорлівай русалкі

сон ткалі вербаў карані.
Нічога не было жывога,
нічога - з цёплае крыві...
І раптам - хвалямі трывога,

і крыўды ўсплёск, і болю ўзвіў.
І прага жыць - глыбінным гулам,
віхурыстым, на самым дне...
Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула,
калі пакінула мяне.



*Фотарэпрадукцыя карціны Сяргея Казака*

# ПЕРААДОЛЕННЕ

Маланка
не знікла
без следу -
яна апаліла душу
і ў ёй засталася.

Гарачы попел пачуццяў
не стлеў...

След ад агню
пячэ яшчэ болей балюча,
яшчэ невыносней -
ён прагне стаць зноўку
агнём.

Сам з сябе падымуся,
як птах аравійскі.
Знішчу памяць -
забуду цябе!

Вярну
маланку
небу.

# ВОКА

Яшчэ драціна не пад токам,
шчэ без крывінкі латачок,
а ўжо азелянелым вокам
глядзіць жывёла
па *той* бок.
Глядзіць пакорліва, ды зрэдку
бяльмом, акругленым, як нуль,
забойніка люструе - сведку
апошняй цямнасці -
*адтуль.*
І тут жа з памяці замглёнай
у воку з праблiскам тугі
праступіць свет яе зялёны -
лугі
ды рэчак берагі.
У воку ўсё і скрыжавана:
зыход яе, быццё, выток...
З крывёй,
з травой недажаванай
яно спадае ў латачок.

# СТЫХІЯ

Збіванне лісце звініць, быццам шкло.
Шугае вятрыска: і хвошча, і свішча.
На лісці, на пыльнай дарозе святло -
як прысак
          жывога яшчэ папялішча.

Марудныя прыцемкі, доўгія дні:
не час для асенняй імжы і залевы.
Сухмень ды віхура. Куды ні зірні,
тырчаць камінамі
                    зламаныя дрэвы.

Дамоў ці вярнуцца… І нельга стаяць
пад шквалам тугім… Але, страхам абвіты,
чамусьці ніводнай не здатны сказаць
упаламу небу
          высокай малітвы.

Аціхне шуга, і бязвер’е міне,
а зараз, за скошанай ветрам вярбою,
адолець не ў сіле я грэшны сумнеў:
ці есць што вышэй
                    ад стыхіі самое?

# БАЛАДА НАЧНОЙ СУСТРЭЧЫ

Дзвярэй, гаротная, не адамкне...
Сябе самую бачыць у акне,
свайму адбітку голас падае:
”Скажы мне, мама, дзе ключы мае?”
Пад ганкам пашукае і ў траве,
абыдзе двор у месячным сяйве,
двор запусцелы - з чэзлым вішняком,
з хлявом на злом, з хацінай пад замком.

Зноў да сябе вяртаецца - да той,
што пазірае з хаты нежылой,
з-за шкла не азываецца, маўчыць,
не кажа, дзе падзеліся ключы.
"Пусці ж у хату!.. Буду жыць прасцей,
з казённых ложкаў забяру дзяцей,
больш не падамся ў белыя муры", -
стаіць і прыгаворвае ў двары.

Ступае з саду маці да яе,
ледзь маладзейшай, і - не пазнае:
”Не тут я ўжо... Ніхто тут не жыве,
дачка шукае ліха галаве -
мяне не прыязджала пахаваць”.
Ды матчын голас госці не чуваць, -
ёй, утрапёнай, мроіцца адно:
вось-вось адчыніцца ў святле акно...

Ёй не відно, як з месячнай начы
сыходзіць маці, кінуўшы ключы.

* * *

Каго чакае ля парога,
каго вышуквае ў двары?
Нікога там няма, нікога,
а толькі ноч і сад стары.

Патупае па ім, па ніцым,
ля аканіцаў пастаіць.
На схіле дзён пню меней спіцца,
чым закаханец юны спіць.

У цемры ночы час апошні
яскравей і смялей відзён,
і гэты пагулянец позні
не хоча траціцца на сок.

Бывае, да суседа зойдзе,
пакурыць з ім ды памаўчыць
і зноў вяртаецца прыродзе,
старому саду і начы.

І зноў чакае ля парога,
кагось вышуквае ў двары,
а там - нікога, апроч Бога,
з ім і выходзіць гаварыць.

## КГУГАБЕГ

Ноч не ўтрымаецца за вецце,
за мокры дах - і ападзе;
прачнешся з думкай, што пачнецца
жыццё інакш, чым кожны дзень.

Святлу памолішся - бязгрэшны
лёг промень; ён, нібы пяро,
акрэсліць будучыя вершы,
а ў іх і вера, і дабро.

За вокнамі, за снегам вішні
людзей пачуеш - галасам
адклікнешся: там з ночы выйшлі
світальна чыстымі, як сам.

Насустрач ім душой памкнешся
і, поўны роснай навізны,
адкрыешся і... спатыкнешся
аб дзень мінулы, як яны.

Зноў пройдзеш з імі свары, звады,
зласлівасць, зайздрасць, і пры тым
ніхто не будзе вінаваты
ў выснове мудрай: хто святы?..

Так пражывеш жыццё яшчэ раз
і, выкляты самім сабой,
заснеш, памерлы ноччу шэрай,
каб уваскрэснуць раніцой.

* * *

*Вінцэсю Вашэку*

Снег пералётны, пыл і смецце.
Ані вясны, ані зімы.
Шал ветру гэткі, што здаецца:
паперакульвае дамы.

Мігціць, ледзь тлее дух ліхтарны.
Бязлюдна ў вуліцах, адно
бушуюць дрэвы ды з кавярні
габоя ўсхліпванне чутно.

Ні спаць, ні думаць... Усё роўна,
хто ў дзверы грукне: акурат
прымаць гасцей - будзь там вандроўнік,
п'янтос ці з брытваю вар'ят.

# САМ

З ім ішлі мы поруч,
і ён мяне ўсяляк падтрымліваў -
рабіўся рашучым і дужым,
калі я падаў ад стомы,
ад нежадання ісці...

Напружваю памяць,
узіраюся ў блізкія твары,
ды не бачу ні ў кім падабенства;
нарэшце здагадваюся:
гэта быў чалавек прыснёны.

Сны больш не сняцца,
і ўсё-такі з ім сустрэнемся:
сёння, калі мне цяжка напраўду,
тым чалавекам, рашучым і дужым,
стаць мушу я сам.

# СПАКУШЭННЕ

…а ўранку з гарачых прасцінаў
устаць і за госцяй падмесці,
спыніць зухаваты гадзіннік
і чорным люстэрка завесіць.
І з дому нікуды не выйсці,
лавіць, як адтуль, з-за фіранкі,
нашэптвае воглае лісце:
"Вар'яцтва - твой жар да каханкі,
бязбожнай такой, бессаромнай.
Імклівай, бы сон, бы хвіліна…"
І прывідным чоўнам Харона
паўстане ў куце дамавіна.
Ужо завіталі суседзі…
Ужо над васковаю свечкай
слязу хтось васковую цэдзіць,
і ты ўжо - душою - пад вечкам…
Але разнасцежаць дзверы,
і ў шчырым жаданні мілосцяў
увойдзе: "Жыццю не паверыў?!" -
зноў тая ж распусніца-госця.

***

*Міхасю Кебецу*

Адзінота - асалода?..
Горкі ў асалоды смак.
Адзінота - несвабода,
у якой жыве мастак.

Кожны рух рукі - імкненне
з несвабоды, але ці
незалежны дух натхнення
прагне выйсце ў свет знайсці?

Творца сам выток і вынік,
каб душу - ці быць, ці не! -
з фарбамі змяшаць і выняць
ды распяць на палатне.

І - пацешыцца свабода
з несвабоды мастака,
як над скончанай работай
зноў ускіне нож рука!..

Творца здыме прысак поту
прасалелы і густы.
Потым выйдзе ў ноч...
А потым
вернецца да адзіноты.
Асалоды. Гаркаты.

***

Люблю, калі сівы мастак - дзіця,
калі да весняй макраты і прэлі,
да бурых сцен і жухлага лісця
ён далучае неба акварэлі.

І гэтак несуладна з чарнатой
асфальту ў лужынах і нізкай хмары
чысцюткіх фарбаў плешчацца настрой
ля шпаркіх ног, што месяць тратуары.

За рамкай, там, - трымклівая краса:
прастора ўскраін, птахі па-над ёю,
а побач, тут, - то шорсткі ўзмах крыса,
то чаравік з учэпістай гразёю.

Спяшаюцца прахожыя, і аж
кіпіць слата пад мітуслівым бегам,
на шкле карціны лепячы калаж:
лістоты прэль, акурак, дождж са снегам.

Абмок, з'інеў мастак і сам як ёсць.
Ды скрозь тужлівасць
у паглядзе пільным
свіціцца, быццам просінь, весялосць:
такой бяды, што неба не купілі!

# БЕРАСЦЕ

Горад пашумвае вулкамі вузкімі -
мноствам галінак з лістамі дамкоў.
Ходзяць тралейбусы мякка, бы вусені,
зрэдку раскрыльваюцца ў матылькоў.

Дрэва і ёсць маё ціха Берасце
з кронай смугі, аблачынкі рудой.
Стольki гадоў - і не менее вернасці
дрэву, што ўводзіць у сад гарадоў.

З вечара фарбы - што ў ранняе восені:
доле цяплей, чым пад сінню ўгары;
дымнасць вітрынаў і жоўтыя россыпы -
скрозь мігацяць светлячкі-ліхтары.

Спеў берасцейкі, нібы берасцяначкі.
Ночы таемнасць… у глыбіні
рукі да рук - закаханыя - цягнуцца,
лёсы сплятаюцца, бы карані.

## БЯРОЗАЎСКІ ЭКСПРОМТ ДЛЯ НІНЫ МАЦЯШ

Зусім Бяроза без марозу:
сыходзіць снег наўзбоч, наўсцяж.
Бяроза - горад не для прозы:
пяе паэзію Мацяш.
Я падпяю, яшчэ цвярозы,
задоўжыцца “капуснік” наш…
Нібы крамяны сок з бярозы,
я п’ю паэзію Мацяш.

*У. Ягоўдзіку*

Белы горад юнацтва.
Адліга.
Снег агаляе асфальт -
са слядамі маімі,
слядамі сяброў маіх даўніх,
забытай каханай маёй.
Пад сонцам вільготным
устаць намагаюцца цені -
стройнымі постацямі,
пругкакрылымі летуценнямі,
верай наіўнаю
ў вечнасць.
Стаю паміж імі -
сябе адчуваю бязважкім,
бы ў часе шчаслівай сустрэчы,
бы ў часе маўклівай размовы
з каханай,
сябрамі,
з сабою былым.
Гэта - цені ўсяго,
ды як міласціва і слаўна,
што ў месяцы лютым,
у горадзе снежным,
у сэрцы сцюдзёным -
адліга.

## МІЖ ВОБЛАКАМІ

Сны мае
          даўно ўжо не лётаюць,
яны панурымі воблакамі,
набухлымі ад знявер'яў і страт,
грувасцяцца ў бяссонні памяці.
Аднак жа
          зрэдзьчасу бачу між імі
празрыста-блакітных анёлкаў -
гэта ў сненне маё на золку
ўплятаюцца сны
                    ўзятай небам дачкі.
"Як жа сюды вы патрапілі?" -
і скрушна, і ўдзячна крычу ім
і паказваю ў просінь між воблакамі -
між маімі сумнымі
                    ахоўнымі знакамі.
А на самай мяжы абуджэння
вочы мае напаўняе
                    няхмарнае неба;
вейкі - дрыготкія, бы крыльцы анёлкаў -
трымаюць буйную і светлую
слязу ачышчэння.



*Сяброўскі шарж Алеся Марачкіна*

## НА ЗЫХОДЗЕ

Што ні дзень, то мацнеюць вятры, халады,
астывае імпэт у людское хады,
вуглавеюць дамы, палавеюць сады,
высыхаюць у лужынах рэшткі вады,
і нябёсам няма больш глядзецца куды.

Дый нябёсаў няма над зашэрхлай зямлёй,
іх туман засланіў павалокай сівой, -
і зважаем цяпер, перад блізкай зімой,
як цяплеем душой - да сябе, між сабой,
да жывое травінкі, раслінкі любой.

* * *

Ужо выпростваецца шлях
у светлы Сад ці ў Сутарэнні...
Дзесь там, у іншым вымярэнні,

не прыйдзе гэты свет і ў снах.
Сказаць, пакутаваў? Трываў.
Губляў апірышча? Сябрамі
не быў абдзелены; з гадамі

па іх найболей сумаваў.
А ўсё ж не вельмі даражыў,
жыў неабвержнай праўдай тою,
што шлях бясконцы - за мяжою,

але кароткі - да мяжы.
Я спагадаў усёй душой
таму, хто кволіўся прызнацца:
перад сыходам - не сцурацца
пякучай крыўды, што прыйшоў.

## ТАПОЛЯМ ДЗЯЦІНСТВА

Паклон нам! Прычакалі.
Калышаце зару.
Як я, старыя сталі...
Малюся - каб не ўпалі
раней, чым я памру.

## ЖАБРАЧКА

Яна папрасіла кус хлеба:
“Цяпер я ні сеяць, ні жаць,
а жыць па-ліхому - ды лепей,
чым добра ў магіле ляжаць…

# ЭЦЮД - 1986

Празрысты і яркі,
да кропелькі высахлы дзень,
сям-там аблачынка
стракатым вісіць парасонам.
Усходні пейзаж,
і так многа раскосых людзей:
прыжмурваюцца беларусы
ад слепкага сонца.
Стамленні рыбак
на пяску пазалочаным спіць,
чародка дзяўчатак
прасольвае юныя спіны.
Маўчанне і ціша.
Спакойныя Рэчыца, Пінск...
У прыпяцкіх водах
трывожыцца цень Хірасімы.

# АДСЯЛЕННЕ

*(трыпціх)*

1

На ўскрайку роднага краю
мала вёсак: адну за адной
хвалі чорныя прыбіваюць
іх да горада, як прыбой.

Герадотава прорва-мора
пашыраецца на пяскі,
і становіцца выспаю горад
з камянямі нягод людскіх.

Гэта вымус, абавязковасць,
але горычы не ўтаю:
разбівае на друз вясковец
мову, памяць, душу сваю.

Мо няма ў нас другога выйсця,
ды ёсць боязь начных вакон:
свеціць імі шматвока выспа,
а вакол… ціша, змрок вакол…

2

Чарнобыль побач… Цяжка, квола,
як быццам не з таго крыла,
устаў, падаў маркотны голас
крумкач ля крайняга жытла.

Яму ніхто не адгукнуўся,
адно над студняй у траве
ледзь праскрыпеў і папярхнуўся
стары драўляны журавель.

А ўнізе сухаліст нягулка
шумнуў - і вецер, сам не свой,
пабег па вусцішных завулках,
бязлюднай гнаны цішынёй.

І немасць зноў запанавала.
Каб на траву ці на лісцё
яшчэ хаця б паўгуку ўпала,
ад болю ціша б закрычала,
як пры народзінах дзіцё.

3

Як я любіў той крык жыцця
і як душой яго ахутваў!..
...Ім надрывалася дзіця,
народжанае для пакутаў.

Цяпер чуцён ён з-пад зямлі,
з-пад мілажальнасці раслінай,
куды няўтоена сцяклі
сляза віны, сляза бяссілля.

А ў чым віна?.. Бяда-змяя
ахвяру спавіла ў калысцы,
і - зноў крычала немаўля,
як пры народзінах калісьці.

Не моўкне голас - з-пад зямлі,
з-пад траў і красак, з-пад дзірвання,
і нельга крык той адсяліць,
і страшна ад свайго маўчання.

*Памяці Т. Ч.*

То зракалася ты, нягордая,
то скаралася ты, адважная.
Твае словы нічымліва-горкія
раскаціліся скрозь па аркушах.

На змяркальнай слязе замешаны,
трапяткія - на ўзлёце зрэзаны:
не паспеў я свае ўсе вершыкі
ў ногі кінуць тваёй Паэзіі...

# ТЫ І ЖНІВЕНЬ

Час уставаць: на адбеленым шкле
лісцік - мазком жывапісным у раме.
Гэта вітанне расстайнае шле
жнівень-мастак, што блукае дварамі.

Вызірні. Не, лепей выйдзі на двор,
вобраз ягоны разгледзіш да рыскі.
Вось на кустах ён расквеціў узор,
вось на траве цёпла фарбы распырскаў.

Краску кракоса зрабіў матыльком,
падчырваніў на мяжы арабіну.
Лёгкай смугою, дымком-завітком
над агародам аўтограф пакінуў.

Ты прачытай. Не, ты лепш па мальберт
хутка схадзі - позна быць можа потым -
і намалюй жніўня сціплы партрэт,
гэткі ж прываблівы, як і самотны.

* * *

Дрыжынка прабегла па жыце.
Спалох, які ўзнік ніадкуль,
спаволіў мой крок на сцяжынцы,

на посаху сціснуў руку.
Абвёў я вачыма наўколле.
Ні ветрыку. Сонца, смуга
ды роўнае-роўнае поле,

ды сіняга лесу дуга.
Абсяг нерухомых нябёсаў,
без межаў, як вечнасць, разлог...
Што значу тут я?.. А здалося,
што быў ніадкуль мой спалох.

## VIXI

Не пражыў,
а сляпую павіннасць адбыў.
Што ў маленстве - забыў,
і пракляў - што ў юнацтве.
І бадзягам не стаў,
і радзіму згубіў,
і сустрэўся з жанчынаю,
каб развітацца.

Да распяцця ад стода
ішоў, не дайшоў,
пераблытаў прадвесне
з бязлістым зазім’ем.
Вецер, дождж за сцяной,
веры грош за душой,
а Бязмежжа
і гэта бязбожна адыме.

А яно
халадней і мярцвей за зіму
ў зрэнкі зіркне...
Тады - о надзея-наіўнасць! -
раб у стыгме,
спасцігну, нашто і чаму
я павінен жыццё
быў прыняць за павіннасць.

# РУКІ

Гэтым дужым рукам
паддавалася ўкаменелая глеба,
пакланяліся травастоі,
паслугавалі камлістыя хвоі,
што клаліся ў звонкія зрубы.

Гэтыя рукі ўмелі
валодаць вясельным гармонікам
і старою хрыпатаю скрыпкай
не горш, чым касой і сякерай,
плугам і печніковаю кельмай.

Гэтыя добрыя рукі
цягнуліся да рук самавітых, як самі, -
і тых, што варочалі камень,
і тых, што запісвалі песні,
і тых, што маліліся небу.

Гэтым рукам агідна
выводзіць было пад дыктоўку
імёны ўладальнікаў рук спрацаваных,
паказваць на дзверы і вокны,
якіх яны часта і чыста краналіся.

Гэтых рук не прымусілі
сціскацца ў кулакі ані суддзі,
ані прынанятыя ў рудных капальнях;
іх, потым вольных, баяліся брудныя рукі,
а незаплямленыя - рэабілітавалі.

Гэтыя рукі сустрэліся
з рукамі жанчыны ссівелае,
каб з імі злучыцца па лініях лёсаў, -
ды як мала, як мала ад іх засталося:
толькі цвікі, ад крыві паржавелыя.

# ВІНАГРАД

Паўдома абляпіў паўзун-вінаград,
быццам паўвулея - рой пчаліны
на заходзе цёплага сонца.

Варушацца, паблісквають лісцікі- крыльцы,
а парыжэлыя цяжкія вінаградзіны
пахнуць вечаровым мёдам.

Зграбна месцяцца жывыя купінкі
на парэнчах, на тонкім шнуры балкона,
на смуглявых руках жанчыны.

Аплятае яе вінаград
мяккім пчаліным роем,
а сонца ўсё болей заходзіць...

Сёння згадаўся той надвячорак:
з далёкага лета жанчына
нямогла паднесла мне жменьку разынак -

жменьку бяскрылых, высахлых пчолаў.

* * *

Жыта ўтаіла нас ад ветру і свету,
і ў валасы твае каласы ўпляліся,

і з целам з'ядналася зыркая глеба.
Сцяблінкі зламаліся, быццам
рукі сагнуліся ў локцях, і гэтак

сталі шматрукімі нашы абдымкі.
І глеба, і цела прагнулі піць,
каб наліліся сухія зярняты,

каб выспела і адкрылася поўнасць.
А поўнасць, як поўдзень гарачы,
нядоўга стаяла ў зеніце - няўмольна

хілілася да астывання, заходу...
Немагчыма было ўжо вярнуцца
да ранейшых сябе, да ветру і свету,

а ўрэшце і да несапраўднага жыта -

гэтага жыта без васількоў.

* * *

Можа, гэта і не блюзнерства -
запальваць свечку перад канапаю,
дзе пачнецца бурлівей, чым нераст,

дзея двух целаў у потных крапінах.
Мо так воліць сама цнатлівасць -
асвечваць выгіны рук аголеных,
пекнасць прасцінаў, губ хапатлівасць

з шэптам-замовай ад меланхоліі.
І ад стратаў... Знакам, што дух не
паўстаў пагардай паміж сумніўцамі,
свечка ад вуснаў зыркіх не тухне,

поўніцца чыстымі таямніцамі.
Мо жаданні мацуе вечнасць,
каб міг кахання не палавінны быў?..
З-пад валасоў - з-пад полымя свечкі
сукня плыве святлом парафінавым.

* * *

Захліснула і абяздоліла,
абяскровіла сэрца ўшчэнт
маладою красой няўтоленай,

зыркім полымем на шчацэ.
Мне з'яўленне яе нядоўгае -
як набег, як душы разбой,
ды імклівае, хутканогае

не прашу: пачакай, пастой.
Пераможаны і разгублены,
суцяшаюся - не ўцячэ:
атруцілася кропляй любасці

губ маіх і маіх вачэй.
Будзе кропляю той падсечана,
ёй не ўвесці другога ў зман,
прыпадзе да каленяў нечыіх,

пераможаная сама.
А што будзе са мной, ніколечкі
не абыдзе яе тады...
Што ж так колюцца,
што ж так колюцца
ў позніх травах яе сляды?

* * *

Апошні раз з табою тут расстанемся,
апошняя сустрэча будзе там…
Як да сябе, самотнікаў, паставімся -
паверым тэлефону і лістам?
Ці зберагуць тужлівае цяпельца,
ці змогуць з сэрцаў халадок прагнаць?
Мы згубім адрасы; мы, як тапельцаў,
падоўгу будзем нумары шукаць
і чым пазней, тым сцюжней, выпадковей
дагукваццa скрозь галас навальніц,
каб потым нечакана, на паўслове
вяртанні ў дні былыя прыпыніць,
а некалі, як выпадзе сустрэцца,
пра іх ні разу і не ўспамянуць…
Яшчэ мы разам; кволае цяпельца
не хочам ні раздзьмухаць, ні задзьмуць.

* * *

Ты- не самая большая страта.
За час, як была ты,
я многага ў свеце пазбыўся.
Забыўся,
хто ласкавей ад каханай абдыме,
якія аблокі ў мяне на радзіме,
што кажуць далоні сяброў...
У чарах тваіх вечароў
я стаў нелюдзімы.
Адно за адным
аблічча знікалі - знікалі, як дым.
Усім,
каму быць мог за роднага брата,
хто судзіў неперадузята
ды з бязладдзя вярнуцца мне радзіў,
я здрадзіў.
Няма іх, чакай не чакай...
Ты - не самая большая страта.
Бывай.

# НОЖ

Нажоў не дарацць, і сябар-паэт сказаў - вазьмі проста так, незаўважна ад ягоных вачэй, і адвярнуўся, вярнуўся да няспісаных аркушаў.

Нехацця, але ўсё ж (госць дарункаў не выбірае) узяў я той нож - з цёмнымі тронкамі ды з бліскучым лязом. Гэтак "скрадзены", ён апынуўся ў мяне на стале - непатрэбнаю цацкаю ўдзень свяціўся на сонцы, а ўночы... Уночы ён сам па сабе сек драўляныя статуэткі, паласаваў мае рукапісы і на пісьмовым стале вырэзваў незразумелыя знакі.

Як рэдкую рэч, здаў я нож у музей, а назаўтра на сябравых няспісаных аркушах я пакінуў завостраны тым нажом свой самы лепшы аловак.

# ТУТ...

Тут, дзе жыву, у кожнага чалавека сядзіць па-за каркам пачвара: павойныя лапы, кіндзюк растаўчы ды пашча; адна толькі пашча, няма галавы.

Штодзень і штоноч, неадчэпна, пачвара сціскае нам глоткі: ні дыхаць напоўніцу, ні голасна плакаць, ні выкрыкнуць слова агіды, ці гневу, ці роспачы. Бесперашкодна яна пранікае пад чарапы нам, - бы ў гульні, перамешвае і прагна высмоктвае, і паядае мазгі.

Яна - як здань ці навада, з таго і не ўсім нам балюча, з таго і не кожнаму дадзена бачыць, - і рэдка тут хто заломвае рукі ды рве на сабе валасы. Бадай жа, дзе-небудзь у краі няхворым адпрэчылі б смехам пачвару, ды ў гэтым - даўно перасталі смяяцца, і смех занядбаны ў стагоддзях запёкся, бы струп...

Ты, хто чытае, мо раптам заўважыў: з-пад чарнільнай сінечы, з-пад белага верша цэдзіцца гнойна чорна-чырвоная кроў? Гэта я, як нямногія - пакуль што нямногія! - са смехам і злосцю здзіраю з сябе пачвару.



*Малюнак Наталлі Чарнагаловай*

## СЦЯНА

Спадзеў на новы год ці на
тысячагоддзе?
Стаіць упоперак сцяна
на пераходзе.
Крычы ўтрапёна "каравул"
ці горбі спіну,
памкненні трушчацца аб мур,
надзеі гінуць.
Ні зрушыць. Ні пераўзысці.
Ні пералезці.
Ні сцежку ў абыход знайсці.
Ніякіх лесвіц.
Ні пэўнасці, што за сцяной
ёсць шлях, ёсць воля...

...Час па цаглiначцы адной
сцяну расколе.
Сам па сабе настане год
спрыяльны вельмі -
адслоніць зноўку пераход,
надзею верне.
Люд чынна справіць па сцяне
жальбу-хаўтуры
і задаволіцца, што не
ён сам разбурыў.
З былога скінуўшы даўгі,
былым завершыць:
няўхільна ўстане мур другі,
такі ж, як першы.

# ЧАЧЭНЕЦ

Самотнік, ён збіраецца ў Чачню.
Шчэ хлапчанё. Мой сум - па хлапчаню.
Заб'е не куля, дык чырвоны страх,
не высахлы на бруку, на бінтах…
Ды ён наважыўся - купіў “ТТ”
і завучыў два рухі каратэ,
пасля якіх здранцвела даланя.
“Эх, шаблю мне ды шпаркага каня!..”
Мы п'ём віно, і паграбок-падвал
сілкуе ў хлопцу ваяўнічы шал.
Ён рады беларускаму рублю:
“Прадам тавар - і зброі прыкуплю!”
Шуміць чачэнец. З блізкае сцяны
злятае пыл Краіны цішыні,
дзе мноства засакрэчаных замкоў,
і не чуцён тут гул сівых вякоў…
Адсюль я родам. Не цярплю крыві.
Мне самы раз яму сказаць: жыві,
тут хопіць бульбы, хлеба - а з'ямо,
дык возьмем у суседзяў за ярмо…
Змаўчу, самапрыніжэнні. Пайду
і заўтра ўжо чачэнца не знайду
ні ў паграбку, ані на кірмашы,
дзе ў галасе знікае крык душы.
Нямое гэтак круціцца кіно:
гамоняць людзі - слоў іх не чутно.
Ці гэтак дождж плюскоча на пяску:
тане - не разліваецца ў раку.
І вёрстамі, і морам цішыні
мой родны край далёкі ад Чачні,
як ад чачэнца - я. Але чаму
цяпер трывогі ўжо не суніму
і крыўды едкай, што пячэ, бы кнот,
і за сябе, і за нямы народ,
за край мой, што не ў стрэлах, не ў крыві…
Жыві, чачэнец! Хлапчанё, жыві!

## У МІНСКУ

Можна ў дождж абмакнуць пяро,
з ім па горадзе прагуляцца,
спрэс метафарным: як таўро -
герб-вянок, што павіс над пляцам.
Пазірае стуль дом-цыклоп
аднавока, з-пад сцяга-вейкі...
Гідка мне: герб - уласны горб,
а не нечы ці вечны нейкі.
Ці ж і мною не віўся верш
пра паненак, лілеі ў лодцы?..
Пад рабром меч Пагоні - лепш,
чым вянок, як пятля, на глотцы.
Гідкі горад, ягоны свет,
заільнёны, заканюшынены.
Гідка думаць, што я паэт:
у айчыне - ды без айчыны...

# НАСТРОІ

1

Дакрануся да лісціка - падае,
злаўлю павуцінку - ірвецца,
ступлю на грудок - пад нагамі плыве.

Адно нерухомеюць вусны твае,
калі прытуляюся...
Яны й пераконваюць: восень.

2

Было гнятліва, скрушна ўчора,
а сёння - Бог даў - дзень як дзень.
За шклом з дажджынак незлічоных
грак мільгануўся - чорны-чорны,
як быццам вылецеў з грудзей.

3

Світанкам, калі сонца - як абраз,
а ўкруг яго, як ручнікі, туманы, -
так чыста на душы,
                бы першы раз -
бы некалі даўно -
                ты закаханы.

Яе шукаць ідзеш і ад вітрын,
ад вокнаў, лужынаў
                адводзіш вочы,
як ад люстэркаў, -
                каб хоць пяць хвілін
сапраўднасцю ўяўлення не сурочыць.

4

Скоціцца сонца за парк апусцелы,
знікне - зацепліць паспее ледзь-ледзь
дробны, адзіны лісток ацалелы...
Добра б і мне да вясны ацалець.

Стане вясной весялей у прыродзе,
ды і ў народзе не звыклі тужыць.
Нават на сконе, на самым зыходзе:
"Толькі б да весняга сонца дажыць..."

5

І голас твой, і ветру голас
спрабуюць марна ўзварушыць
усё, што ўлеглася, скалола,
схавалася за цёмны полаг, -
быль сноў,
бель снегу,
боль душы...

# БАЛАДА РАССТАННЯ

"Прасцей так...” - думаў ён.
Ішоў, як ад пагоні -
не развітаўшыся,
не зачыніўшы весніц.

А ўночы бачыў твар яе
ў акне вагонным,
нарэшце ўцяміць змог,
што гэта толькі месяц.

І доўга йшла яна пустым загонам,
пасля і ў хаце
не знайшла трывогам месца
і вызірнула ў ноч:
што з месяцам сягоння?..

Там зеўраў чорны круг,
дзе ззяў учора месяц.

# РОЗДУМ НА КУПАЛЬСКІМ ДОСВІТКУ

*Як ціха! Спакой твой ніхто*
*і нішто не трывожыць...*
*Міхась РУДКОЎСКІ*

Цяжка змераць усё, што было,
лёгка ўведаць пра тое, што будзе...
Стома каменем ляжа на грудзі -
і ніхто, і нішто не абудзіць:
ні твой голас, ні птаха крыло.

Свету - вечную тайну таіць,
а жалоба - зусім не навекі.
Хто стуліў мне сухія павекі,
шчэ ўзгадае; наступнік жа нейкі
на магілу забудзе хадзіць.

Укладуцца гады, як вянцы;
дух любові і прага яднання
не дадуць і ў зямлі мне адхлання,
і тады з-пад жарствы і дзірвання
выйду - стану на ўласным капцы.

Светлы цень не пакліча бяды,
а ўпадзе на жытцо маладое,
на акно, дзе шчаслівыя двое,
і ўсё-ўсё блаславіць - нават тое,
што ніхто больш ні прыйдзе сюды.

Дай мне, доля, дальні бераг,
вольны човен ды вясло,
каб жыла са мною вера,
слова роднае жыло.

Дай той бераг; тут ні следу
не пакіну, дзе цяпер
усяго адно і свету,
што зняменне і знявер.

Дай мне, доля, за Ракою
бераг росны, трапяткі,
каб забраць я мог з сабою
веры й мовы чарапкі.

Хоць на сколках незлічоных
хай крынічыла б святло...
Калі ж не - дай чорны човен,
каб нічога не было!

***

Гэта восень мая… Ні тугі, ні адчаю.
Сыдзе час, як пясок. Праплыве, як вада.
Што, па праўдзе, для Госпада я азначаю,
каб умольваць Яго, каб сябе шкадаваць?

Што ж, абступяць, абхопяць апошнія хвілі,
і на рукі сяброў ападзе галава…
Ці я многа аддаў, ці ў мяне шмат прасілі,
каб па мне галасіць, каб па мне гараваць?

Шлях за краем міне. Неўпрыкмет, непарадна…
Быццам восень іду - межавая пара.
Гэта горкая, ды найпраўдзіўшая праўда:
трэба так, як трава, як лісцё, паміраць.

Той бяды, што якоесь былінкі не стане!
Напамінкам хіба, што свет жыў і жыве,
хоць калі, хоць каму ціхі позірк прагляне
ці ў лісці маладым, ці ў вясновай траве.

# НЯВЫКАЗАНАЕ

Я вераю ў сябе грашу:
паспею выспеліць такое,
што не адно маю душу
высокім ахіне спакоем;
складу найдобрыя радкі
хаця б за нейкія два крокі
ад тое вечнае ракі,
дзе не люструюцца аблокі;
дзе ні гарлачыка няма,
дзе хвалі ў прысмерках дрыготкіх,
дзе - анічога, акрамя
бязвёсельнай самотнай лодкі...

## *З НІЗКІ*

## *"ФРЫВОЛЖ"*

# КРАСА

*Она сосуд, в котором пустота,*
*Или огонь, мерцающий в сосуде?*
*М.Забалоцкі*

Яе пагляд свяціць скрозь ростань будзе,
і мудрасць слоў не раз астудзіць скронь.
Ды, грэшны, я - няхай святоша судзіць -
кахаў усю: і стан яе, і грудзі...
І не дзялілася краса - агонь
быў у такім прываблівым сасудзе!

***

Уначы мне камар дакучаў, дацінаў,
я яго адусюль даланёю зганяў.
Мог расплюшчыць, расцерці, у гразь разляпіць,
не люблю, калі прагне хто кроў маю піць.
Я, магчыма б, яго ў рэшце рэшт і забіў,
калі б гэтак заняты табою не быў.

## ЗАСТОЛЬНІКАМ

Што-небудзь пачытаць?.. Не кпіце.
Калі ракой цячэ віно,
навошта верш вам? Ешце - піце,
я вып’ю з вамі заадно.
Схадзіць да крамы сам гатовы,
як раптам сядзеце на мель,
ды пра паэзію - ні слова,
яна не слодыч і не хмель.
Мне не з рукі душой дваіцца,
а вам пад чарку слухаць верш.
Паверце, з вершам - не гадзіцца,
з яршом - і то куды ўжо лепш!

## НАМЕР

Сонна-сонна, ціха-ціха,
і намер свой прэч ганю -
быць апошнім трэба псіхам,
каб парушыць цішыню;
каб у нейкіх тапках-дранцах
па прыступках прагрымець,
у смаркатых ашыванцаў
скрынку з музыкай займець
ды пранізлівым акордам
уварвацца ў твой спакой,
гэткі ж прывідны, няцвёрды,
як намер застылы мой, -
каб ты кінула да ліха
быт задушлівы і глуш,
каб зрабіўся заўтра псіхам
безнадзейна сонны муж.

* * *

Канверт расклеіць - вось прычына
згадаць, што сумны быў даўно,
што і ў цябе была жанчына,
якой цяпер усё адно.
Чыё вітанне - як лучына:
агню за дымам не відно...
Той ліст, ледзь прабяжыш вачыма,
скіруеш ветру за акно.
І ён растане аблачынай,
а ты самотнае віно
піць будзеш з іншаю жанчынай,
якой тым больш усё адно.

*З НЯМЕЦКАЙ ПАЭЗІІ*

*<u>Ёган ГЁТЭ</u>*

# ВАНДРОЎНІКАВА НАЧНАЯ ПЕСНЯ

На горных вяршынях
спакой.
У вершалінах
парой
ледзь ветрык дыхне.
Спяць птушкі: прыспаны лясамі.
Счакай - і таксама
ты згубішся ў сне.



*Малюнак Мікалая Чурабы*

**Гайнрых ГАЙНЭ**

* * *

Яны мяне змардавалі
і знервавалі зусім,
адны са сваім каханнем,

другія з гневам сваім.
Яны мне хлеб атруцілі,
спаілі пітвом ліхім,
адны са сваім каханнем,

другія з гневам сваім.
Яна ж, ад каго найболей
пакутаваў, сох, марнеў,
мяне не звягала гневам
і не кахала мяне.

## ПАЛЮБОЎНІЦА

Яны так любілі ўзаемны палон,
была яна шэльма, злодзей быў ён.
Калі ўмахляваць яму шанцавала,
на ложак кідалася і рагатала.

Праходзіў ва ўцехах і ў радасці дзень,
пасля яна спала ў яго ля грудзей.
Калі ж яго варта ў ноч забірала,
стаяла ля вокан і рагатала.

Умольваў яе: ”О, прыйдзі да мяне,
з табою любая нуда праміне,
я прагну цябе, мне свету не стала...”
Разводзіла рукі і рагатала,

А шостай яго ажанілі з пятлёй,
а сёмай засыпалі цела зямлёй,
а восьмай жа, як зусім развідняла,
віно піла яна і рагатала.

## *З РУСКАЙ ПАЭЗІІ*

*Аляксандр ПУШКІН*

Я Вас кахаў; пачуцці тыя, мусіць,
у сэрцы яшчэ цепляцца маім.
Ды хай нішто Вас болей не засмуціць,
я не хачу няволіць Вас нічым.

Я Вас кахаў употаю, нямотна,
то з рэўнасці згараў, а то з тугі.
Я Вас кахаў так шчыра, так пяшчотна,
як дай жа Бог, каб Вас кахаў другі.

***Аляксандр БЛОК***

***

Ноч, вуліца, аптэка, вецер,
ліхтар, няіснае святло.
Жыві хоць сто гадоў на свеце,
а ўсё тут будзе, як было.

Памрэш - паўторыш быт штодзённы,
зноў тая ж вернецца пара:
ноч, вуліца, павеў сцюдзёны,
аптэка, цьмянасць ліхтара.

*З МАКЕДОНСКАЙ ПАЭЗІІ*

Блажэ КОНЕСКІ

# ВІЙ

У мроях, бы апоўначы ў царкве,
цябе замкнуў. І свечкай ледзь жывою
ты бляклa свецішся, а ўсе святыя
пажадліва цікуюць за табою.
Ты сталася нявольніцай, якую
настойліва, няўтомна заклінаю,
і ўжо здаецца: настае часіна,
калі дзве нашы сутнасці з’ядна́ю.
Я набліжаюся, як грозны Вій,
зямлісты ўвесь, сама зямная прага;
так, страшны я, і што нясу пяшчоту
ў сівых вачах - з таго табе так блага.
За крок я ўжо, пяшчотны Вій, ды раптам
сябе абводзіш рысай кругавою,
і дол за ёю валіцца ў бяздонне,
і рушацца памкненні ўсе за ёю.
Сасмяглы, як пясок, я сам у прорву
кідаюся - і ў прорве той знікаю.
Я, Вій, цябе трымаю моцна ў мроях,
ды, прагны, даступіцца сіл не маю.

*Юрый КУЗНЯЦОЎ*

# СУСТРЭЧА

Па-над стромай, дзе двум размінуцца надзеі ніякай,
аднаногага Ганса звёў мост з аднагогім палякам.
Ой, вы, ногі мае! Той без левай, а гэты без правай,
той кульгаў Сталінградам, а гэты бажыўся Варшавай.
- Донэрвэтэр! Пся крэў! - так адзін аднаго прывіталі,
ды каб ім размінуцца, яны абняліся братамі.
Ногі параю сталі - сышліся на хвілю дарогі,
каб ізноў разысціся... О людства, твае гэта ногі!

*Леанід МАРТЫНАЎ*

# ВАДА

Вада
ласкавасць мела
ліцца!

Яна
была той чысціні,
калі - ні ўмыцца,
ні напіцца.

І ў гэтым дзіўнага - ані.

Ёй
не хапала
рыбных скалак
і вербалознай гаркаты.

Ёй
твані, глею не хапала
і туманоў - на чараты.

Ёй
не хапала быць бруістай,
ёй не было сваволіць дзе.
Жыцця ёй не хапала -
чыстай,
дысталяванай
той вадзе!

# ХВОРЫ ДОЙЧЫН

Калі стаў поўны сілы,
што прыхлынула весняй паводкай упарта,
калі гатовы быў здзейсніць свой подзвіг,
услаўлення варты,
калі ўмацаваліся думкі для найважкіх слоў,
рукі для найцяжкага мяча,
ногі для найпэўнай хады -
тады й зламаўся.
Бы чарэшня ад безлічы ягад, упаў я тады.

Цень неадчэпны, здрадлівы адчуваў я за спінай:
сочыць за мною і, як гад у магілу, у мозг пранікае,
высмактаў радасць, адну чорную роспач пакінуў, -
я недаверлівым стаў, лёг на душу маю камень.
Смешным, нікчэмным тады я зрабіўся ў пакоры:
сагнуўся ў каленях,
далоні самлелі,
выпаў мой меч,
упаў я хворы.

Дзевяць гадоў ужо ў хворасці,
і дзевяць падсцілак мною злежана.
Не чую цягляў сваіх знерухомленых,
я распластаны на цвёрдым нерушы,
на пякельным сонечным прысаку.
Я ўвесь раскіданы, костка ад косткі,
праз косткі мае трава прабілася,
з-пад тое травы выпаўзаюць змеі.

Лёг бы ў дол, каб мукі цемрай сцерці,
ды без подзвігу - няма мне смерці.

Жанчына невядомая, адна на свеце,
сястра мая і маці, ты, што гора зазнала,
ты, што ў трыванні зрабілася каменем,
прыйдзі ты, залатая;
збяры мае заплесненыя косткі, не жахайся,
складзі мяне
і палатном спаві на трыста столак,
шапні мне слова, матка,
падымі мяне
і навучы хадзіць нанова,
дай мне ў рукі меч -
каб я забіць мог Чорнага Арапа.

Каб мог памерці.

*Дойчын - папулярны фальклорны герой*
*пайднёвых славян.*

*Чэслаў МІЛАШ*

# ВЕРШЫ ДЛЯ АПАНТАНЫХ

*Хлопец:*
-Калі я не веру ў Бога, які адпушчэнне
дае душы на сконе,
дык, пэўна ж, веру ў Д'ябла, што вострыя церні
схіляе да скроні.

Як з братам, з ім я вандрую па свеце,
імкну за далі,
і ўжо мне вочы твае не свецяць,
што верш натхнялі.

Калі я рукі на вёслах спеўных
сціскаю крэўна,
ён ля стырна - гожы, прагны, гнеўны -
стаіць нядрэмна.

Са мной за столік ён у кавярні,
як цень, садзіцца,
ківае ў вокны - там сонца барвы
сплываюць Ніца.

Калі цалую ўначы цябе я,
ён птахам змроку
глядзіць, і крыллем лапочуць веі
ўсяго ў паўкроку.

Мне лёс відзён: цішынёй спавіты,
сыходжу ўранні;
шамрыць за мною ён спелым жытам,
гардыняй раніць.

***Дзяўчына:***

\- Баюся цябе, баюся...
О мой любы, ты - апантаны,
не бачыш мяне, ой, не бачыш,
крывавіш пальцы аб мур нязнаны.

Рукі мае цябе хочуць песціць,
ногі прагнуць тваімі абвіцца,
вусны мае над вачэй тваіх кветам
хочуць, як матыль, трымшэць, прамяніцца.

А ты водзішся з сябрам ліхім,
валадарцам блюзнерскай малітвы,
І ўпадзеш ты адзін сярод бітвы,
і ў прадонны абернешся дым.

калі слепнуць лямпы
і верасам ціша хмеліць ноч
тады выходзіць насустрач
малітва-верш

***

дзверы
як з азбукі смерці
срыпенне апошніх птахаў
што не віюць болей гнёздаў
летуны ў нікуды

ямчэюць думкі
суцішанасць на парог сядае
бы здзіўлены хлопчык
з пальцам у роце

потым маці заплача
ў шуканні першых слоў
дзеці

пазанепадаюць пясочніцы
састарэюцца лялькі

потым дзверы
наросхрыст

слоў святло
ў бязмоўі

дзверы
і зноў
дзверы

калі адцялі пупавіну
а ў даляглядах
пульс дасягнуў раўнавагі
настаў дзень
калі дрэвы выйшлі
насустрач
і падзялілі дні
на смех і плач

а потым
так блізка
сцены небасхілу
ды хоць бы хто спрычыніўся
да самоты

старасць
адшуквала ўток-пупавіну
і не прыдаліся
злінялыя словы
і вецер

выйшаў
вярнуўся

*З УКРАІНСКАЙ ПАЭЗІІ*

*Лэанід ПАЛТАВА*

# ЧАЛАВЕК

Па бруку, захінуты ў паліто,
прыгорблены, ідзе няпэўным крокам.
І не ўгадае ў ім ужо ніхто
ні бацькі, ні героя, ні прарока.

Але кажу сабе: пільней зірні,
і ўсмешкай прывітай, і дай дарогу.
Бо ці ж не так у небнай глыбіні
мы бачым хмары - і не бачым Бога?

***

Мой народ з мінуласцю крынічнай!
Над табою прашумеў разбой,
ды збярог ты ўласнае аблічча, -
не ўсушылі каты розум твой.

Ёсць нашчадкі - твой працяг, абнова, -
шляхам спавівання тваім,
і няскораная продкаў мова
служыць годна і аддана ім.

Позірк твой слязой абмыла вечнасць,
дабрыні ў ім шмат і яснаты...
Вырадкі? Яны аб тым і сведчаць,
што жывы, што неўміручы ты!

# НЕ ВЕР МНЕ

Мне ты не вер, бо я ілгаць не ўмею,
і не чакай, бо я і так прыйду.
Я прынясу табе сваю надзею,
а падару і смутак, і бяду.

Ясноту слоў, мне аднаму вядомых,
нудою мармытання абгарну,
усмешкі пробліск з беспрычыннай стомы
ў халодную насмешку абярну.

І буду скардзіцца, як небарака,
і блазнаваць да злыдняў уваччу,
але як трэба будзе мне заплакаць,
я тупа, аж да слёз, зарагачу.

Мне ты не вер, бо я ілгаць не ўмею,
і не чакай, бо я і так прыйду.
Я прынясу табе сваю надзею,
а падару і смутак, і бяду.

***Васыль СТУС***

У гэтым полі, сінім, быццам лён,
дзе толькі ты - і анікога болей,
адкрыў, як страх: блукалі сярод поля
сто ценяў. У сінечы, быццам лён.
І ў гэтым полі, сінім, быццам лён,
цяпер самому быць наканавана,
сябе адчуць жыццём угатавана -
у гэтым полі, сінім, быццам лён.
Сто чорных ценяў доўжацца, растуць
і ўжо, як хвойнік тонкі і высокі,
ідуць насустрач. Кінуцца наўцёкі?
Сваю сцяжыну стужкаю згарнуць?
Не. Выстаяць. Не забаяцца. Не -
стаяць. І толькі тут. У гэтым полі,
што быццам лён. І ўласнае няволі
зазнаць на гэтай роднай чужыне.
У гэтым полі, сінім, быццам лён,
ты - супраць ста, ты ловіш ценяў рухі,
і кожны вораг з роспачы і скрухі
хоць гіне, але шле табе праклён.
Ды кожны з іх - усё-ткі твой праклён,
самотаю тваёю абгарэлы,
вяртаюцца табе ўсе джалы-стрэлы
ў заклятым полі. Сінім, быццам лён.

***

Як страшна вынявольвацца дабру...
Як страшна прызнавацца ў тым, што людскасць
яшчэ жыве ў нас. Страшаць дні чакання,
калі яна, нявольніца, памрэ
ў цямрэчы, каб употай пахаваць
на могільніку душ і зведаць шчасце,
якога ўжо да ран не прыкладзеш.
Як вабіць ліха, вабіць грэх - бягом
на край зямлі, сябе развеяць з ветрам,
сцурацца нават вобліку свайго,
бы чорта лысага... Кульгавы дзень
у цемру зойдзе, гляне па закутках
і завагаецца. Карпеў ён марна:
вакол агменю племя самаедаў
шчасліва пазяхае. На агні
гатуюць мяса. Кроп у сагане
пагойдваецца. Сёрбаючы юшку,
сягаючы ў глыбіні медытацыі!,
мазгуюць: а каго б - на смажаніну,
каб на сняданак мець і на абед.
Кульгавы дзень сыходзіць, бо пячорны
і класты люты змрок не ападзе,
пакуль ажно астатні самаед
не з’есць сябе самога і памрэ
з высновай філасофскаю. Маўляў,
жыццё кароткае, а - мала мяса.

<u>***Васыль СЫМАНЕНКА***</u>

# МОЖНА

Можна бачыць яву або сон,
можна верыць сябру ці каханай,
верш у хаце песціць, бы вазон,
каб успыхнуў кветкаю духмянай.

Можна жыць, а можна існаваць,
ці ствараць, ці спажываць чужое,
ды ля тых, што тлеюць, не гарацы,
не сагрэцца нізашто душою.

Кожны з нас бывае на мяжы,
кожнаму за ўласны лёс трывожна,
а сябе той здолеў перажыць,
хто рабіў, чаго было не "можна".

<u>*Васыль ГЭЙ*</u>

# ПЕРАДЗІМЕ

Схалола ў долах цішыня.
Вятры паснулі каля саду,
да ранку скроні лістападу
буйная ўсыпле сівізна.
Павіснуць важка ўскрай акна
сузор'і - гроны вінаграду,
і зазвініць крынічны кадаўб,
нібы нацятая струна.
Бы сонца прабліскі-хвіліны,
сцякаюць кропелькі каліны
і ў воглай свецяцца траве.
Лісткі адчальваюць з далоні,
і кожны чоўнікам чырвоным
між хваль азіміны плыве.

*Пэтро МАХ*

# СУСЕДЗІ

І думкі шчырыя, і словы меў -
падносіў іх, як на будоўлі цэглу.
А ў доме побач ценем зайздрасць легла,
і знемагаў, слязьмі каціўся гнеў.

Няўзнак руплівцу быў сусед, пакуль
не спатыкнуўся ў пошуку аднойчы, -
ён згледзеў яго радасныя вочы
вачыма, што барвелі ад пакут.

З хвіліны не нацешыўся тае
зайздроснік, які столькі год хаваўся.
Ён у закутак затхлы зноў падаўся,
пабачыўшы, як майстар устае!

***Ёсып СТРУЦЮК***

***

Мне ўжо нічога не патрэбна,
а тлуму - зроду не хацеў.
Але няхай бы дожджык срэбны
над ярыною шапацеў.

Мне ўжо нічога не патрэбна,
што мела быць - усё было.
Але няхай бы песні крэўнай
не выракалася сяло.

Мне ўжо нічога не патрэбна,
усё, што думаў, я сказаў.
Але няхай сплыве бясследна
з-пад вейкі роспачы сляза.

*Антон ЦВЫД*

***

Чалавек яшчэ ў калысцы,
а ўжо дні спадаюць лісцем
з дрэва часу, з дрэва роду -
без звароту...

# Назіранні за белымі воблакамі

*(З нататнікаў)*

Пасля добрай кніжкі вершаў - як пасля ліпеньскай навальніцы: дыхаецца лёгка і глыбока.

Калі паэт пачынае іранізаваць? Калі ў гневе і смутку ад дурноты людское разрываецца на часткі і не можа разарвацца, не можа супрацьстаяць ёй папросту, без насмешкі. Або тады, калі пакутуе ад дурноты ў самім сабе (самаіронія).

Да сябе на халасцякоўскую кватэру ў лістападзе 87-га запрасіў Міхась Рудкоўскі. Самота - звычайная нагода для яго, а мне з ім заўсёды добра. Ён быў у гуморы. Дзве пляшкі таннага віна на стале, машынка і на ёй стос аркушаў з вершамі. “Глыні, а потым, калі ласка, паслухай: закончыў перакладаць украінцаў”. Прычасціліся. “Ну, чытаю, а ты, стары, ацэньвай двума словамі: добра або ерунда”. І я з чыстым сумленнем “добрыЎ” і “ерундзіў”... Міхась, калі закончылі., зарагатаў, узяўшыся далоням) за вусы: “Пераклады я межаваў са сваімі новымі вершамі. Чытаю пераклад, ты - “добра”, свой верш - “ерунда”. Вот! Не крыўдуй, стары, праўду хацеў пачуць”.

З доўгага выраю вяртаюцца нашы паэты: Арсеннева, Гарун, Жылка, Хадыка. Такія птахі, размах крылаў якіх не адразу і вымераеш, адно адчуваеш пругкую, шырокую хвалю паветра, што рассякаецца імі. Ці не з таго, на жаль, мы такія нясмелыя ў іх ацэнках, у адданні ім належнай павагі і любові, уласнага гонару за іх?

Максім Багдановіч - зорка першай велічыні. Не з таго, бадай, што самая яркая, а з таго, што зыходная, крынічная, самая шчодрая. Яна дасюль іскрыцца промнямі, а мы, каму які промень прыдаўся, збіраем іх: хто - каб запаліць паходню, хто - каб асвятліць гарышчы і скляпенні, убачыць красу пылу, змроку, павуціння, ценяў ды зданяў.

Дзесь у хмарах жывуць павукі.
Што снуюць павуціну дажджа.
Кожны тлусты і мяккі такі,
Скура слізкая, як у вужа.
Ў целе стыгне халодная кроў,
Злосць бясцэльная ў круглых вачах...
Чу! Чуваць шорах ног павукоў,
Аплятаючых сцены і дах.

Хутка і такой красы ў беларускай паэзіі стане дастаткова. Тады з'явяцца новыя "авангардысты", што зноў будуць маліцца на зорку Максіма Багдановіча, пачнуць збіраць прыдатныя толькі для іх промні.

Адзінка не нуль, а ўсё, не драбніца, а цэласнасць: у ёй - уся прырода, увесь вопыт пакаленняў і ўся будучыня. Найбольшае праяўленне цэлага ў адзінцы і ёсць геній. Геній заклікаем выказаць, адлюстраваць усю вечнасць. І толькі нявечнасць існавання яго самога не дазваляе яму гэтага зрабіць.

Горка і няўцешна было пачуць ад Уладзіміра Андрэевіча Калесніка ў адзін з апошніх ягоных дзён: "Нікуды не падзецца. Што зробіш? Не хоча цела трымаць душы, не ў сілах..." І душа тая так вогненна-журботна пазірала ягонымі вачыма. Яна жыла, пакутавала тым, чаго не паспела зрабіць, хоць і зрабіла уга колькі! Нейкі дакор і наказ быў мне, нам, каму ён пасабляў жыць духам, не даваў апусціцца ў спраты абыякавасці, ленасці, адчаю ці звычайнага п'янства.

* * *

Не сілю сябе пісаць, калі не пішацца, сілю - жыць, калі жыць не хочацца. Галоўнае - духоўна выжыць. А што не пішацца - гэта проста вынік,

Ніцшэ, Шапенгаўэр... Без карысці, нават і нябеспечна чытаць іх звіхнутаму да параноі себялюбцу. Але паэту, які ў нас амаль скрозь бязвольны, бездапаможны і наіўны, як дзіця, - чытаць абавязкова! Як Біблію верніку - штодзень.

* * *

Звычайны стан Алеся Разанава - “увесь у сабе”, з-за чаго ён выдае не толькі на нелюдзімага, але і на «незямнога». Мусіць, увесь фокус у тым, што ён у натхненні, у рабоце душы - паўсядзённа, а большасць з нас - па святах. Але як жа ён мяняецца, калі трапляе ў нашу паўсядзённасць! Нібы скідвае з сябе цяжар, з якім жыве пастаянна. Нават чакае і хоча скідваць яго, што ўжо не раз для мяне было відавочна. Пад час першага кангрэса Беларускага ПЭН-цэнтра сядзелі доўга ў ягоным нумары, цягамоцілі сур’ёзныя рэчы, а раптам сярод ночы Алесь падымае ўсю “кумпанію" (былі там і сур’ёзныя замежныя калегі) ды вядзе да Ніны Мацяш, каб да ранку піць шампанскае і гаварыць зусім пра зямное...

На абарваным лістку ледзь-ледзь прачытаўся запіс вусных слоў У. Калесніка, зроблены мною ці то на пасяджанні літсябрыны, ці то ў яго дома, ці то дзе ў дарозе: “Пішаце вершаваную публіцыстыку на трыбуне, а інтымную лірыку - у ложку, побач з каханкаю. А сапраўдная паэзія ствараецца толькі сам-насам...”

Запазычваць у паэзіях далёкіх і блізкіх можна па-рознаму: а) цалкам, механічна, нічога не даючы ўзамен і нічога, па сутнасці, не беручы сабе, апрача як "дзіковінку" ў нацыянальную калекцыю (так сёння, напрыклад, асвойваюцца ў нас танка ды хоку); б) мудра, з узаемным абагачэннем, вяртаючы пазыку.

Праілюстраваць пункт "б" няцяжка. Не начытаюся адкрытым для сябе вершам У. Жылкі "Развітанне" (1928). Чужое пагрозлівае мора. Яно і наша, бо гэта - рамантычнае ўяўленне беларуса-выгнанніка. Як бераг вадою, размываецца падоўжанымі, напеўнымі "нашымі" радкамі застылая французская форма "ле" (lai). Пры гэтым якія родныя хвалі-рыфмы: гамонка - гонка - пярсцёнка - палонка - старонка!.. Нарэшце, выбух-канцоўка:

Затым, што мужны буду, жонка.
Вярнуся я, а ты ў ваконка
Цікуй і цноту ткліва дбай,
З далёкіх падарож, мая сасонка,
Я прывязу суровых вод звычай,
І сэрца вернае, і ў тронках
Вось гэтых - гэты нож... Бывай!

Ці ж не ўзор гэта еўрапейскай лірыкі? І ці ж не ўзор лірыкі нацыянальнай?

Славутая "беларуская шчырасць" у паэзіі без глыбокай думкі, праломленай праз дакладную, арыгінальную і трапяткую матафару, зноў і зноў ператвараецца ў традыцыйную "беларускую шэрасць".

Радуюся за Васіля Сахарчука:

...як вуж ад скуры,
і паэт
так вызваляецца ад вершаў.

З нейкай насцярогаю, прынамсі, без вялікага даверу стаўлюся да тых маладых “эксперыментатараў”, якія не напісалі ніводнага прыстойнага верша традыцыйнага, рэалістычнага. Пабла Пікаса ў жывапісе, Алесь Разанаў у паэзіі ішлі ад рэалізму да авангарду пастутова, паэтапна. Ёсць і прыклады ад адваротнага. З літаратуры найперш згадваецца эгафутурыст Ігар Севяранін, які недзе на другім дзесятку свайго паэтычнага веку напісаў:

Величье мира - в самом малом.
Величье песни - в простоте.
Душа того не понимала,
Не распятая на кресте.

У тым і недавер да сучасных стваральнікаў “поэз”, што не адчуваеш у іх душы; эксперыментатарства ўспрымаецца найчасцей як эпатаж, самалюбаванне, і толькі ў апошнюю чаргу - як імкненне абнавіць літаратуру.

Змест і форма: калі ў самы адмысловы, самы дасканалы, але ў адзін і той жа сасуд наліваць, чаргуючы, розныя напоі - гарбату, сок, віно, гарэлку, - гэта ўрэшце надакучвае; хочацца ўзяць простую конаўку і папіць простае вады.

Шарль Бадлер - адна з самых багатых, а з таго і такіх складаных натураў. Ці ведалі б мы пра гэта, калі б паэт не быў да канца, да дна шчырым - у сваіх супярэчнасцях, сумненнях, грывах і заганах? Багацце душы і шчырасць - калі і не ўвесь яшчэ талент, дык, мусіць, аснова, грунт яго. Астатняе - эрудыцыя, вопыт, майстэрства - “надбудова”.

Геній належыць усяму чалавецтву - аксіёма. Але не менш бясспрэчная ісціна тое, што ў кожнага генія ёсць айчына. Нездарма да сваіх “Крымскіх санетаў” Адам Міцкевіч узяў за эпіграф крылатыя радкі другога генія, Гётэ: “Хто хоча зрумець паэта, той мусіць наведаць паэтаву радзіму”.

І сапраўды, нельга глыбінка спасцігнуць “Дзядоў”, "Конрада Валенрода", многіх іншых твораў Міцкевіча без ведання гісторыі і культуры (звычаяў, традыцый, фальклору і нават мовы) Літвы-Беларусі. У такім кантэксце Міцкевіч - наш (айчынны).

* * *

Корпаўся ў сваім кніжным запасніку, каб узяць у дарогу што-небудзь спадручнае, і спыніўся на стосе паэтычных буклетаў, выдадзеных у Маскве напярэдадні апошняга, IX з'езда пісьменнікаў СССР, у 1992-м. Сярод іншых - зборнічак Станіслава Золатцава “Прощеное воскресенье”:

...А быть может, нынче лучше помолчать,
в горло вбив себе молчания печать:
разве знаешь ты, в какие времена
завтра вступит наша дивная страна?
Может, завтра ты ответишь головой
за сегодняшний горячий голос твой.
Может быть... Но нет страшнее ничего,
чем удушье от молчанья своего.

Чую ўжо не ад аднаго з маладзейшых: як ты лічыш, ці не прэстыжней перайсці на рускую мову, каб пашырыць кола сваіх чытачоў? Звычайна адказваю: перайдзіце на ангельскую, гэта яшчэ больш прэстыжна, чытаць будзе ўвесь свет.

Паэт-украінец. Жыве ў Беларусі. Піша па-руску. Дакладней, пісаў: ужо два гады як перайшоў на родную, украінскую, мову. Моцна пакутуе і ад кепскага валодання моваю, і ад свайго позняга “прасвятлення” - яму ж пад восемдзесят. Калі сустракаю яго, нязменна згадваю той адмысловы трохжыльны кабель, які быў паказаны па тэлебачанні ў гады галоснасці: адзін провад рабіўся ў адной саюзнай рэспубліцы, другі - у другой, трэці - у трэцяй... А ўсё роўна “плакунам” па зніклай краіне цяжка даказваць, што менавіта штучнае яе ўтварэнне ды паказная еднасць, а не натуральны і непазбежны распад - сапраўдная прычына трагедыі многіх шчырых людзей, у тым ліку творцаў.

Так і хочацца сказаць некаторым шматпішушчым: не ўсё, што напісалі, нясіце ў друк. Нешта пакіньце і для нашчадкаў. Няхай і яны памучацца, чытаючы.

*  * *

“У мяне ўчора нарадзіўся верш...” - падзяліўся навіною паэт і прачытаў надта сыры яшчэ твор у залу. Потым апраўдваўся, незадаволены: маўляў, хацеў апрабаваць новае на рэакцыі слухачоў. Ці варта было, калі гэтае новае не жарт, не экспромт? Як і дзіця, верш мала нарадзіць, яго яшчэ трэба выкапаць і толькі тады выводзіць у людзі.

Кахае безнадзейна, ды аніяк не разыдзецца з жанчынаю, якая яму здраджвае. Гэтак жа не парывае з музаю графаман.

Задумалі з Нінаю Мацяш скласці больш-менш грунтоўны - калі "пацягнем", дык анталагічны - зборнік беларускіх вершаў пра каханне. Нават не ўяўляў, якая гэта карпатлівая праца і колькі часу яна забірае. Але не шкадую, што ўзяўся. Хаця б з-за вершаў накшалт “Яліны і клёна” Васіля Віткі. Яго “адкапаў” у часопісе “Крыніца” за 1996 год, а раней ці то не прачытаў, ці то не звярнуў належнай увагі:

Два дрэвы злучылі свае галасы
І скрыпкаю сталі абое.
Скрозь і паўсюды, ва ўсе часы
Людзі іх песню завуць любоўю.

Сэрца адное
У клёна, яліны.
Разам яны да апошняй хвіліны.

Змоўкне яліна, клён не зайграе,
Дзынкне струною -
І памірае.

Зрэшты, твор можа падацца некаму занадта “мазгавым”, робленым. Гэтаму адчуванню не падпадзе той, хто (як цяпер я) перанасыціўся лірыкай кахання сентыментальнай, квяцістай, без філасофскай напоўненасці, важкасці, навізны. Такой па зборніках ды часопісах рассыпана вой колькі!

Бадай, ніхто так не пранікае ў верш, не “абмацвае” яго да костачкі (да коскі), як перакладчык: ні сам аўтар, які працуе ў натхненні і не заўсёды да канца асэнсоўвае створанае ім інтуітыўна; ні тым болей чытач, які ўспрымае паэзію найперш эмацыйна; ні крытык, які рэдка калі аналізуе верш асобна ўзяты, а найчасцей - у кантэксце зборніка, некалькіх зборнікаў і г.д. Аднак жа і перакладчык не абсалютны знаўца дадзенага верша, для гэтага трэба дасканала, да нюансаў ведаць мову арыгінала і быць адразу ў трох іпастасях - і чытачом, і крытыкам, і аўтарам (сааўтарам). Наіўна было б думаць, што ўсе, хто бярэцца за пераклады, імкнуцца да гэтага ідэалу.

Эколагі і медыкі ўсё з большаю трывогаю кажуць і пішуць пра неабачлівыя эксперыменты з генетычнымі змяненнямі ў раслінным і жывёльным свеце. Гвалт, што пераходзіць ледзь не ў спартыўны азарт, шкодзіць і прыродзе, і самому чалавеку. Памідор можна “апладніць” нават генамі рыбы, а якія будуць наступствы? Гэты невясёлы жарт навукоўцаў лёгка перанесці на... сучаснае мастацтва, паэзію ў прыватнасці. Цэлае нашэсце выкрунтасных і вычварных “гібрыдаў”, а натуральнай, здаровай паэзіі ўсё менш. І ці можа, сапраўды, хто прадбачыць наступствы?..

* * *

Згадваю, як ці то студэнтам, ці то яшчэ школьнікам апынуўся ў неадольным “магнітным полі” аднаго патрыятычнага верша з часопіса “Маладосць”. І напісаў вершык свой, куды слабейшы і ледзь не плагіятарскі. Пра што мне шчыра, па-мужчынску сказаў Віктар Гардзей, тадышні кіраўнік ганцавіцкага райлітаб’яднання. Было сорамна.

Аналогіі ў паэзіі, якія часам знаходжу, не ўсцешваюць. Не так даўно, адбіраючы інтымную лірыку, напаткаў верш Антона Бялевіча "Ласіны паядынак" (кн. "А ў бары, бары", Мн., 1974). Не ўтрымаўся, каб не параўнаць яго з "Паядынкам аленяў" Міхася Рудкоўскага - вершам, напісаным, бясспрэчна, раней (зб. "Сінія Брады", Мн. 1967). Той жа матыў, тая ж ідэя, тыя ж, па сутнасці, вобразы. Аднак у А. Бялевіча ўсё гэта настолькі нязграбнае і агрубленае, што асобныя радкі і нават строфы ўспрымаюцца як парадыйныя:

- Сыдзі, блазнюк, з мае дарогі!
- З дарогі прэч, гарбыль стары!
Яны сышліся. Рогі - ў рогі...

У М. Рудкоўскага пра тое ж - нашмат паэтычней:

І сыходзяцца строгім шагам,
з горда ўскінутай галавой,
і звіняць рогі іх, бы шпагі...

Можна параўнаць яшчэ: "Рашучы бой! Ласіха з ельнічку цікуе: і той - герой, і той - герой! (А.Б.) - "...а з-за той, што вачамі сінімі пазірае на іх з-за кустоў, што застыла ў маўчанні трывожным" (М.Р.). Творчае саперніцтва? Бадай, не. Магію чужога верша ўсё ж трэба ўмець пераадольваць. Гэта я кажу і сабе, таму ці то школьніку, ці то студэнту.

Непрыдуманы анекдот. Аўтар да літкансультанта, незадаволена: "Вы не ўлічылі, што вершы гэтыя мне прадыктаваў голас з Космасу, а я проста запісаў іх..." - "Магчыма. Але вам не здаецца, што прадыктаванае вы не расчулі як след і з таго так дрэнна запісалі?"

З іранічна-сумнаю ўсмешкаю пазіраю на адзін з апошніх сваіх вершаў у сшытку-чарнавіку. Пачатак: "Вось і восень мая...". Слова "вось" перапраўлена на "гэта" ("гэта восень мая"), а пасля "гэта" заменена на "хутка". Цяпер карціць яшчэ якое слова падабраць... І праўда, чорт яго ведае, што пісаць, калі табе без году пяцьдзесят. Не было б так сумна, парагатаў бы з сябе...

* * *

Кепска не тое, што пішам кепскія вершы, - ад гэтага ніхто не застрахаваны, - а тое, што кепскія вершы друкуем. Яны рана ці позна «ўсплываюць на паверхню», і тады одумнаму аўтару (графаману, зразумела, усё роўна) сорамна за іх. Нават калі іх не крытыкуюць, а, наадварот, хваляць у артыкулах, уключаюць у тэматычныя зборнікі, чытанкі, альманахі, дэкламуюць са сцэны. З аўтарам, як правіла, не раяцца, бяруць на свой густ, і нічога не зробіш: што апублікавана - ужо не зусім тваё... Зведаўшы ўсё гэта на сабе, думаю не без самаіроніі: ці цалкам праўдзівы лацінскі крылаты выраз scripta manent (напісанае застаецца)? Застаецца надрукаванае, і, на жаль, не толькі тое, што вартае заставацца.

ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

КАСКО Алесь Канстанцінавіч

ТРОХКРОП'Е
Вершы, пераклады, запісы

Адказны за выпуск С.Б. Лаўроў
Рэдактар В.В.Бурдыка
Тэхнічны рэдактар Н.С.Матвеева
Вокладка мастака Леаніда Валасюка

Падпісана ў друк 25.X.2001 Фармат 60x84 1/16
Гарнітура «Время». Папера афсетная. Рызаграфія
Ум. друк. арк, 5,12. Тыраж 300 экз.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Выдавецкі дом С.Лаўрова
224016 г. Брэст, вул. Куйбышава, 12/1.
Тэл/факс (0162) 23-27-10; тэл. (0162) 26-54-55.
ЛВ №190 ад 17.01.2001; ЛП №383 ал 1.03.2001

**УВАГА!**

У вёрстцы перакладаў дапушчаны памылкі. Правільная расстаноўка наступная:

1. Вершы Ю.Кузняцова і Л.Мартынава (стар. 84 і 85) адносяцца да раздзела “З рускай паэзіі”.
2. Верш “Хворы Дойчын” (стар. 86-87) належыць македонскаму паэту Блажэ Конескаму.
3. Вершы “Мой народ з мінуласцю крынічнай!.." і “Не вер мне” (стар. 93, 94) у раздзеле “З украінскай паэзіі” належаць Васілю Сыманенку.

Выбачаемся!

Рэдакцыя.